# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

№ 10 (575) ГОД XII 5 САКАВІКА 1967 г. ЦАНА 60 гр.




З нагоды жаночага свята ўсім жанчынам — актывісткам, членам і сімпатыкам Беларускага грамадска-культурнага таварыства шлем самыя сардэчныя віншаванні і пажаданні далейшых поспехаў у грамадскай працы і шчасця ў асабістым жыцці.

Галоўнае праўленне БГКТ

Нашым мілым і сімпатычным чытачкам шлем сардэчныя васьмісакавіцкія прывітанні.

Рэдакцыя Нівы



# БГКТ

*СПРАВАЗДАЧА ЗА 1966 ГОД*

*ГП БГКТ апрацавала справаздачу з дзейнасці Таварыства ў 1966 г. Мы выбралі з яе асноўныя лікі. І так у канцы 1966 г. БГКТ налічвала 159 гурткоў і 5499 членаў. Па аддзелах (адпаведна): Гайнаўка — 52 і 1753; Бельск — 45 і 1536; Беласток — 1 і 760; Мілейчыцы — 17 і 489; Саколка — 23 і 376; Міхалова — 15 і 230; Варшава — 1 і 215; Дуброва — 5 і 140. Найбольш новых членаў прыбыло ў Гайнаўскім аддзеле — каля 300.*

*Паводле аплачвання складчын першыя тры месяцы займаюць (па чарзе): Беласток, Мілейчыцы і Варшава.*

*Прэзідыум ГП БГКТ у 1966 г. збіраўся 11 раз, паасобныя праўленні аддзелаў — 58 раз (планавана 41). Найбольш «празасядаўшыміся» аказаліся гарадскія праўленні ў Беластоку і Варшаве (па 12 пасяджэнняў). Найменш пасяджэнняў мае Дуброва (1).*

*Добрыя эфекты дае дэманстрацыя савецкіх фільмаў. У мінулым годзе ў гэтай галіне БГКТ дало 181 сеансаў: у Беластоку — 42, у паветах — Гайнаўскім 44, Бельскім 43, Беластоцкім — 22, Сямяціцкім — 15, Сакольскім — 9, Дуброўскім — 6. Агулам на гэтых сеансах прысутнічала 12313 гледачы. Кінасеансы былі выкарыстаны таксама для агітацыйна-прапагандысцкай працы. Тут, між іншым, праводзіліся гутаркі і кальпартаж кніжак БГКТ. Найбольшай папулярнасцю карыстаўся беларускі фільм «Чырвоныя лісці».*

*У 1966 г. налічвалася 62 мастацкія калектывы з беларускім рэпертуарам. У тым ліку драматычных — 48, эстрадных — 9, харавых — 5. Прыймала ў іх удзел 840 самадзейнікаў. Эстрадны калектыў ГП БГКТ «Лявоніха» ў 1966 г. выступіў з 192 канцэртамі. Найчасцей «Лявоніха» была ў Сакольскім павеце (35 канцэртаў), затым у Гайнаўскім — 29; Бельскім — 27, Беластоцкім — 29, Мілейчыцкім — 20.*

*Найбольш гутарак і дакладаў правялі Гайнаўскі і Мілейчыцкі аддзелы. Першы (адпаведна) 41 і 48, другі — 33 і 31. На Гайнаўшчыне таксама адбылося найбольш аўтарскіх сустрэч. На 80 сустрэч, якія праведзены былі ў мінулым годзе ва ўсіх аддзелах, тут адбылося аж 38. Гайнаўскі аддзел першынствуе ў нашым Таварыстве і ў распаўсюджванні кніжак БГКТ. Прададзена тут 2900 экземпляраў розных кніжных выданняў Галоўнага праўлення.* *(ха)*

Сустрэчы з землякамі



Зінаіда Фалькоўская распрацоўвае новы праект.

# ЗІНАІДА ФАЛЬКОЎСКАЯ

Тысячы людзей штодзень праходзяць побач варшаўскіх небаскробаў на вуліцы Маршалкоўскай. Кожны захапляецца іх прыгажосцю, і рэдка хто ведае, што шматэтажны ўздзел у стварэнні гэтага цэнтра нашай сталіцы, так званай «усходняй сцяны» прыпаў на долю нашай зямлячкі, магістру інжынеру Зінаідзе Фалькоўскай.

Нарадзілася яна і вырасла ў чыгуначным пасёлку Чаромуха на Гайнаўшчыне.

— Я заўсёды адчувала прыхільнасць да матэматычных прадметаў, — гаворыць Зінаіда Фалькоўская. — Вучылася я ў Бельскім беларускім ліцэі. Ліцэй закончыла ў 1952 годзе з дыпломам выдатніка навукі. Усе вышэйшыя школы сталі тады для мяне адкрытымі. Магла паступіць без уступных экзаменаў. Выбрала факультэт сухапутнага будаўніцтва Варшаўскага палітэхнічнага інстытута. Навука давалася мне наогул лёгка, жыла я ў асноўным толькі са стыпендыі, крыху дапамагалі бацькі. І так «даехала» да дыплома. Зараз спецыялізуюся ў праектаванні рознага роду канструкцый з алюмінію.

— Алюміній і шкло — будаўнічыя матэрыялы будучыні, ці не так?

— Так. Зараз штораз часцей канструктары выкарыстоўваюць у будаўніцтве алюміній і шкло. Вось наш канструктарскі калектыў апрацаваў нядаўна разлікі па пабудове алюмініева-шкляных канструкцый некаторых сцен гмаху Савета эканамічнай узаемнай дапамогі, які (гмах) будуецца зараз у Маскве. А ў Варшаве, на ўсходняй сцяне, мы ўпершыню ў нашай краіне, замест вапнавай ці другой штукатуры, прымянілі алюмініевую бляху.

— Гэта чаму?

— Таму, што прыгожа, лёгка і ўстойліва, хаця, на жаль, не танна. У сонцы алюмініева бляха зіхаціць яркімі праменнямі і гэта прыдае высокім гмахам такой прыгажосці, як жанчыне новая, добра пашытая сукенка.

— На даху кожнага небаскроба варшаўскай «усходняй сцяны» стаяць нейкія вежы...

— Яны прызначаны для радыётэлефанічнай сувязі. Гэта мая канструкцыя.

— Ці хацелі б вы жыць у адным з гэтых небаскробаў, якія, між іншым, самі праектавалі?

— Ды яшчэ як! І то на апошнім, 24-тым, паверсе. Каб вы ведалі, які цудоўны краявід распасціраецца з такой вышыні! На жаль, у мяне нядрэнная кааператыўная кватэра.

— А дзе яшчэ можна знайсці будынкі вашай канструкцыі?

— У Гдыні, у Лежайску, у Жэшаўскім і Келецкім ваяводствах, ды пад Варшавай. Але не толькі будынкі. Я перш за ўсё займаюся праектаваннем халадзільных складаў і алюмініевых рэзервуараў. Алюміній лёгкі, але і капрызны. Дагэтуль так агромадных рэзервуараў ніхто ў нас не будаваў. Усё трэба прыдумоўваць ад пачатку.

Як вынік гэтых пошукаў былі аб'яўлены ў спецыялістычных часопісах працы магістр інжынера Зінаіды Фалькоўскай на тэму прымянення алюмінію ў будаўніцтве. Зараз з'яўляецца яна вядомым спецыялістам у гэтай галіне. Атрымала навят гадавую ўзнагароду за канструкцыю пераносных халадзільных установак для спажывецкай прамысловасці.

— Ці ваша праца абмяжоўваецца толькі да апрацоўкі праекта?

(Працяг на стар. 5)

# АГНІСКА ЗНП ПРАЦУЮЦЬ

Агніска, гэта назва найменшай арганізацыйнай адзінкі прафсаюзнай настаўніцкай арганізацыі — ЗНП. Можа не з назвы, але з дзейнасці, агніска, знаёмыя многім жыхарам вёсак. Чаму?! З той простай прычыны, што чатыры разы ў год настаўнікі з некалькіх школ збіраюцца на т. зв. раённыя канферэнцыі, дзе ў асноўным пагльбляюць педагагічна-грамадскія веды. Канферэнцыі адбываюцца кожны раз у іншай школе. Пабудаваны яны так, каб у кожнай канферэнцыі былі дзве часткі: тэарэтычная і таварыская. Каб больш зрабіць актыўнай працу паасобных агніскаў, Галоўнае праўленне ЗНП (Саюз польскіх настаўнікаў) аб'яўляе конкурсы «Наша агніска добра працуе». У снежні 1966 г. закончыўся апошні з пяці праведзеных конкурсаў. Конкурс прыдуманы не на тое, каб зрабіць атракцыю, але свайго роду гэта план працы прафсаюзнай арганізацыі, які трэба сістэматычна рэалізаваць. Можна вылучыць тры асноўных дзялянкі працы, на якія перад усім настаўляецца ЗНП. 1) Праца ўнутрыарганізацыйная; 2) Рэалізацыя заданняў звязаных з павышэннем педагагічнага ўзроўню школы; 3) Грамадска-палітычная дзейнасць для асяроддзя. Саюз польскіх настаўнікаў прыняў на сябе ролю кіраўніка і каардынатара прац, якія выконваюць настаўнікі ў школе і асяроддзі.

Зрэшты, конкурс «Наша агніска добра працуе» з'яўляецца пэўнай мерай працы арганізацыі і паасобных яго адзінак. Справай вельмі задавальняючай з'яўляецца тое, што **Беластоцкае ваяводства заняло трэцяе месца**, што **Бельскі аддзел ЗНП** заняў у Польшчы таксама **трэцяе месца**, а Беластоцкі павет быў таксама ўзнагароджаны.

Чаму так высока ацанілі працу прафсаюзных арганізацый Беласточчыны? Простая справа. На 248 агніскаў (у 1965 г., тады пачынаўся конкурс) прыступіла да конкурсу 220, а 200 зрэалізавала заданні конкурсу. І ўжо акруговая конкурсная Камісія мела многа клопатаў, таму што колькасць пунктаў часта была збежная. Напрыклад, **Беластоцкаму** павету акруговая Камісія налічыла **398** пунктаў і тым самым заняў ён **першае месца** ў акрузе, а **Бельскі** павет атрымаў **384** пункты і заняў **другое месца**. Хіба шчаслівым было тое, што абодва аддзелы трапілі ў Варшаву. Там, як вышэй сказана, Цэнтральная Камісія многа вышэй ацаніла Бельскі аддзел, чым Беластоцкі. Але ўрэшце не ў тым справа, каго і як ацэнена, справа ў тым, што зроблена настаўнікамі, а мо лепш сказаць, што яны сабе арганізавалі і іншым. Бельскі аддзел ЗНП апрача вучобы свайго актыву напісаў, што грамадскія інспектары працы правялі ў 64 школах кантролі, а пратаколы і прапановы пераказалі адпаведным уладам, для 80 агніскаў. Праўленне аддзела ЗНП арганізавала двухдзённыя экскурсіі аўтобусам, з чаго скарыстала 325 настаўнікаў. Такія настаўнікі як: Сяргей Філіпюк — Рыбалы, Ванда Мучынская — Даманова, Яўгінія Дамброўская — Дзяніскі, Аляксандр Барташук — Войшкі,

(Працяг на стар. 5)

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### МАГУТНАСЦЬ АРМІІ

У час прэс-канферэнцыі, якая адбылася ў Маскве ў сувязі з 49-ай гадавінай Савецкай Арміі, генерал Курачкін заявіў, што **«ні адзін пункт зямнога шара не застаецца па-за радыусам дзеяння савецкіх снарадаў»** і што **«савецкія ракеты ўсіх тыпаў вельмі дакладныя, а выяўленне і знішчэнне ў адпаведны момант баявых атамных зарадаў не з'яўляецца ніякай праблемай для савецкіх узброеных сіл»**.

### ГАНДЛЁВЫЯ СУАДНОСІНЫ

Заходнеберлінскі «Тэлеграф» піша, што таварны абмен між ФРГ і ГДР дасягнуў у 1966 годзе агульнага ліку 2,9 мільярдаў пералікавых адзінак. Гэта абазначае, паводле інфармацыі Федэральнага статыстычнага бюро, узрост на 20% у параўнанні з 1965 годам.

### ПЕРАПІС НАСЕЛЬНІЦТВА

У студзені 1969 года ў СССР будзе праведзены чарговы перапіс насельніцтва. 23 сакавіка гэтага года, у 9 раёнах, якія розняцца між сабой кліматычна-геаграфічнымі, эканамічнымі і бытавымі ўмовамі, будзе праведзены пробны перапіс, які ахопіць паўмільёна жыхараў РСФСР.

### ПАСТАНОВА АБ ПОДДАНСТВЕ

20 лютага гэтага года Народная Палата ГДР прыняла рашэнне аб подданстве Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі. Прынятая аднагалосна пастанова ўвайшла на месца дагэтуль абавязваючай пастановы з 1913 года.

### ІНТЭРВ'Ю ПРАФ. КАПІЦЫ

Славуты савецкі фізік, член Акадэміі навук СССР праф. **Пётр Капіца** ў інтэрв'ю для месячніка «Юность» сказаў: «Аўтарытэтная і здаровая грамадская думка можа стварыцца толькі ў атмасферы жывога і актыўнага мыслення. Неабходным для такой атмасферы з'яўляецца супроцьпастаўленне розных поглядаў, абмен супярэчнымі думкамі, дыскусія, дыспут. У апошнія гады мы зрабілі велізарны крок наперад у гэтым напрамку. Але нягледзячы на тое, усё яшчэ кепска дыскутуем — няўмела і не вельмі культурна. Дыскусія ж — гэта істота дыялектыкі. У барацьбе супярэчнасцей родзіцца праўда. Калі ў якой-небудзь навуковай дыскусіі няма супярэчных поглядаў, дык няма барацьбы: гэтая дысцыпліна сама сябе асуджае на смерць... Дыскусіі павінны выхоўваць, але трэба ўмець іх весці. А гэтым не можна пахваліцца нават у сябе ў Акадэміі навук».

### У ІНДАНЕЗІІ

Паводле даных з мінулага тыдня пад прэсіяй генеральскай юнты і правых палітычных груціровак прэзідэнт Сукарна зрокся прэзідэнцкіх паўнамоцтваў і перадаў іх генералу Сухарта. Незалежна ад таго, для многіх інданезійцаў Сукарна ўсё яшчэ з'яўляецца не толькі героем нацыянальна-вызваленчай барацьбы, але і сімвалам супраціўлення правым.

А. К.

## БССР

### ФОРУМ

Адбыўся творчы семінар маладых акцёраў і рэжысёраў Беларусі. Семінар арганізаваны па ініцыятыве ЦК беларускай камсамольскай арганізацыі, беларускага Міністэрства Культуры і тэатральнага таварыства. З усіх тэатраў рэспублікі на свой форум з'ехаліся маладыя акцёры і рэжысёры. На працягу пяці дзён вялі яны размову аб акцёрскім майстэрстве, аб праблемах сучаснага тэатра.

### БЕЛАРУСКАЯ

Запланавана выдаць Беларускую савецкую энцыклапедыю. Пры Акадэміі навук Беларускай ССР створана ўжо галоўная рэдакцыя Беларускай энцыклапедыі. На чале рэдакцыі пастаўлены акадэмік Пятро Броўка.

Падрыхтоўка і выпуск гэтай энцыклапедыі адбываецца на моцы адпаведнай пастановы партыі і ўраду Беларусі. Першы яе том выйдзе ў свет у сувязі з пяцідзесяцігоддзем Беларускай ССР — г. зн. у 1969 годзе. Поўны выпуск энцыклапедыі будзе закончаны ў 1974 годзе.

### ТАРЫЧ

Нядаўна памёр заснавальнік беларускага кіно Юры Тарыч, родам з Полацка.

Першы рэжысёрскі дэбют Тарыча адносіцца яшчэ да нямога кіно. Гэта — фільмы «Марока», «Першыя агні». Найбольш значным творам гэтага перыяду творчасці Тарыча быў фільм «Крылы халопа». На міжнародным конкурсе ў 1928 годзе ў Злучаных Штатах Паўночнай Амерыкі фільм увайшоў у лік найлепшых дзесяці фільмаў года побач з «Браняносцам Пацёмкіным» Эйзенштэйна і «Маці» Пудоўкіна.

### ВЕЧАР

Работнікі культуры і мастацтва беларускай сталіцы, кампазітары, музыказнаўцы, артысты сабраліся 20 лютага ў актавай зале Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі на творчы вечар, прысвечаны 75-годдзю з дня нараджэння і 55-годдзю творчай дзейнасці лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР, народнага артыста СССР Рыгора Шырмы.

Юбіляра віталі прадстаўнікі партыйных, дзяржаўных і грамадскіх арганізацый Беларусі, а таксама прадстаўнікі беларускіх творчых арганізацый. Зачытаны былі шматлікія тэлеграмы з усіх канцоў Беларусі і Савецкага Саюза.

Вечар закончыўся канцэртам Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы Беларусі, якой дырыгаваў сам Рыгор Шырма.

### ВУЛКАНЫ

Вучоныя высвятлілі, што за апошнія шэсцьсот мільёнаў год на цяперашняй тэрыторыі Беларусі адбыліся два магутныя вулканічныя выбухі. Найбольш магутныя выбухі адбываліся ў аколіцы цяперашняй паўднёва-заходняй Брэстчыны. Другім цэнтрам вулканічных выбухаў з'яўлялася цяперашняя Гомельшчына. Гэта ў пэўнай меры высвятляе факт вялікіх запасаў нафты на цяперашнім беларускім Палессі.

(С. Я.)

## ПОЛЬШЧА

### РОЛЯ ГРН

23. II. адбылося пасяджэнне камісіі КЦ ПАРП да спраў радаў нарадовых, на якім ацэньвалася дзейнасць грамадскіх радаў. Камісія сцвердзіла, што ў апошнія гады ў вялікай ступені ўзрасла іх роля, чаму ў вялікай меры садзейнічала ўвядзенне гаспадарчага планавання грамадскіх радаў. Камісія ўказала таксама на важнейшыя недахопы ў працы радаў: малы ўплыў грамадскіх радаў на дзейнічаючыя ў грамадах установы, не падпарадкаваныя радам, недахоп калегіяльнасці ў працы прэзідыумаў радаў, бюракратызм, недастатковая роля камісій і вясковых сходаў.

### ПЕРАД КАНФЕРЭНЦЫЯЙ ЕЎРАПЕЙСКІХ КАМПАРТЫЙ

26 лютага закончылася ў Варшаве пасяджэнне рэдакцыйнай камісіі для падрыхтоўкі матэрыялаў на канферэнцыю еўрапейскіх камуністычных і рабочых партый у справе еўрапейскай бяспекі. Камісія апрацавала праект дакументаў, якія будуць перададзены да разглядання еўрапейскім кампартыям.

### АБАВЯЗАЦЕЛЬСТВЫ

З аказіі 50-ай гадавіны Кастрычніка калектывы многіх прадпрыемстваў Польшчы бяруць на сябе каштоўныя абавязацельствы звышпланаванага павышэння прадукцыі, удзелу ў працах грамадскім чынам, ашчаднасці матэрыялаў, паляпшэння якасці прадукаваных тавараў і г.д.

### КОЛЬКІ КАШТУЕ СПЕЦЫЯЛІСТ?

Падлічана, што, каб вывучыць аднаго лекара, дзяржава выдае 166 тысяч злотых. Кожны інжынер каштуе дзяржаве каля 130 тысяч злотых, а спецыяліст ад сельскай гаспадаркі — 174 тысячы злотых.

На ніжэйшых узроўнях навучання кошты значна меншыя: на абітурыента пачатковай школы выдаецца 8 тысяч злотых, на абітурыента агульнаадукацыйнага ліцэя — 17 300 зл.

### ЦАЦКІ

Вясковыя дзеці штораз больш гуляюць цацкамі, прадукаванымі масава нашай прамысловасцю. Крамы ГС-аў прадалі іх у 1964 годзе за 57 мільёнаў злотых, у 1965 — за 78 мільёнаў, у 1966 — за 100 мільёнаў злотых.

### АПЕРАЦЫІ З БУДЫНІНАЙ

Пабудаваны 237 гадоў таму назад палац Любамірскіх у Варшаве будзе адвернуты на 80 градусаў. Франтовая сцяна з фасадам перанясецца на адлегласць 75 метраў. Будзе гэта ўжо чацвёртая падобнага тыпу аперацыя ў краіне.

### ПАРОМ

Пачынаючы ад 20 чэрвеня г. г. паміж Свінауйсцем і шведскім партовым горадам Істад пачне курсаваць паром, які будзе забіраць аднаразова 680 пасажыраў і 110 аўтамашын.

(п)

## ВАЯВОДСТВА

### 49-ая ГАДАВІНА САВЕЦКАЙ АРМІІ

Грамадскасць Беласточчыны ўрачыста адзначала 49-ю гадавіну славутай Савецкай Арміі. У Беластоку адбыўся ўрачысты мітынг і дэлегацыі заводаў і прадпрыемстваў склалі вянкі ля помніка ўдзячнасці савецкім воінам, які ўстаноўлены ў гарадскім парку. У сядзібе ГП БГКТ была наладжана спецыяльная вечарына. Вучні Белавежскага ляснога тэхнікума арганізавалі двухдзённую папулярна-навуковую сесію, прысвечаную жыццю і барацьбе свайго славутага земляка, Героя Савецкага Саюза, генерала Аляксандра Вашкевіча, які загінуў у апошнія дні вайны. На Беласточчыне пабывала група савецкіх афіцэраў. Наведалі яны школу імя Г. Кунавіна ў Гарасімовічах на Сакольшчыне і школу імя капітана Шандурава ў Гібах Сейненскага павета.

### ОРМО

21 лютага споўнілася 21 гадавіна дзейнасці арганізацыі ОРМО. З гэтай нагоды адбылося ў прафсаюзным кіна-тэатры ў Беластоку ўрачыстае пасяджэнне. Старшыня прэзідыума ВРН С. Жмійка ўручыў найлепшай армоўскай арганізацыі Беластоцкага павета пераходны сцяг.

### СВМ

Члены Саюза вясковай моладзі праводзяць зараз выбары ў грамадскія і павятовыя праўленні сваёй арганізацыі. Выбрана ўжо амаль 250 грамадскіх праўленняў, а першыя павятовыя справаздачна-выбарныя з'езды СВМ назначаны на 5 сакавіка. Адбудуцца яны ў Сямяцічах і Ломжы. Саюз вясковай моладзі налічвае зараз на Беласточчыне 41 200 членаў, аб'яднаных у 1812 гуртках.

### СЕЛЬГАСГУРТКІ...

...Беластоцкага ваяводства падвялі ўжо падлікі мінулагодняй гаспадарчай дзейнасці. Дабіліся яны шмат лепшых вынікаў, асабліва ў выкарыстанні машына-трактарнага парку.

### СЕСІЯ

27 лютага адбылася ў Беластоку дзесятая сесія гарадской рады. Радныя ў асноўным разглядалі праблемы развіцця рамесніцкіх паслуг для жыхараў горада.

### ПРЭМ'ЕРА

Беластоцкі тэатр 25 лютага выступіў з новай п'есай — камедыяй «Мізантроп» французскага драматурга XVII стагоддзя Мальера.

### КАНТРАКТАЦЫЯ

План па кантрактацыі збожжа незадоўга будзе ўжо поўнасцю выкананы. Не хапае яшчэ каля 10%. Найбольшы недахоп наглядаецца ў кантрактацыі пшаніцы і жыта. План па кантрактацыі аўса і ячменя нашыя гаспадары ўжо шмат перавыканалі. Прыкра, што сяляне паўднёва-ўсходніх паветаў шмат адстаюць па кантрактацыі ад сялян з другіх раёнаў ваяводства.

(вр)




NIEDZIELA, 5.III.

10.25 „Szkarłatna włócznia" — film USA; 11.35 Dziennik; 11.45 Rep. filmowy z Centralnej Spartakiady Narciarskiej w Zakopanem; 12.05 Konkurs skoków na Dużej Krokwi; 14.00 „Przemiany"; 14.25 Teatrzyk dla Przedszkolaków; 15.00 Mistrzostwa w jeździe figurowej na lodzie. Pokazy najlepszych; 17.45 „Portrety" — „Tadeusz Boy-Żeleński"; 18.20 PKF; 18.30 „Brunetka i inne"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Sprawozdanie z międzynarodowego meczu hokejowego CSRS—Kanada (III tercja); 20.15 Dziennik; 20.45 „Laureat Archimedesa"; 21.15 „Szalone wakacje" — film fab. jugosł.; 22.40 Niedziela Sportowa.

PONIEDZIAŁEK, 6.III.

16.55 Dziennik; 17.00 Dla dzieci: film „Zaczarowany ołówek"; 17.10 „Tajemnice i zwyczaje pocztowego znaczka"; 17.30 „7 milionów młodych"; 17.45 „Nos dla tabakiery"; 18.10 Kino Krótkich Filmów; 18.40 „Eureka"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 „Miasto Czterech Pokoleń" — rep. film; 20.20 Teatr TV: „Martwa królowa" — dramat Henry de Montherlant; 21.25 „Na półkach księgarskich"; 21.35 „Cave di Marmo" — film; 21.50 Dziennik.

WTOREK, 7.III.

10.00 „Człowiek, którego nie było" — film USA; 11.55 Dla szkół (kl. XI): L. Kruczkowski „Niemcy"; 15.25 Przysposobienie rolnicze — „Obornik"; 16.00 Politechnika TV; 17.00 Dziennik; 17.05 „Zrób to sam"; 17.20 „Zapraszam na wtorek wieczór"; 17.50 Telekram; 18.00 „Wiem wszystko" — teleturniej; 18.30 „Koncert artystów meksykańskich" — film; 18.50 „Próby"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 TV Kurier Warszawski; 20.15 „Człowiek, którego nie było" — film USA; 21.50 „Na morskich szlakach"; 22.15 Dziennik; 22.35 Politechnika TV.

SRODA, 8.III.

10.00 „Alfred Hitchcock przedstawia" — film; 16.20 „Przygotowanie maszyn i narzędzi do prac wiosennych"; 16.30 PKF; 16.40 „Łapać złodzieja" — film; 16.55 Dziennik; 17.00 „Zwykłe sposoby — niezwykłe sekrety"; 17.20 „Nie tylko dla pań"; 17.50 Filmowy program rozrywkowy; 18.15 „Piosenki dla Ewy" — program muzyczno-rozrywkowy; 18.45 „Wieczory antyczne"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 „Międzynarodowe Targi w Lipsku"; 20.30 „Alfred Hitchcock przedstawia" film; 21.20 „Światowid"; 21.50 Dziennik; 22.05 „Warszawska Jesień".

CZWARTEK, 9.III.

9.55 Dla szkół (kl. VIII): Historia — „W nocy nalot — w dzień łapanka"; 10.55 Dla szkół (kl. VIII): Język polski — „Karol Szymanowski"; 15.00 „Wesoły pociąg" (Leningrad); 16.10 „Mineralne nawozy azotowe"; 16.40 „Jak się do tego zabrać" — film; 16.55 Dziennik; 17.00 Kino Ptyś; 17.20 „...trzy, dwa, jeden, zero — start!" odc. III; 17.40 „Tramp"; 18.10 „Opowieści znad Mlecznej Rzeki"; 18.30 „Przegląd muzyczny"; 19.00 „Nowosybirsk" i „Moda na staruszków" — rep. filmowe; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 Sprawozdanie sportowe; 21.15 Teatr KOBRA: „Jesteś tylko diabłem" Joe Alexa; 22.15 „Refleksje"; 22.45 Dziennik.

PIĄTEK, 10.III.

10.55 Dla szkół (kl. lic.): „Panorama" — wiadomości o Polsce i świecie; 12.00 Dla szkół (kl. IV): „Miasto Kopernika"; 12.45 Dla szkół (kl. I): Historia z zapałkami"; 16.55 Dziennik; 17.00 „Miś z okienka"; 17.15 „Pisarska przygoda Marii Kann"; 17.30 „Przygody Robinsona Cruzoe" — film fr. odc. II; 17.55 Wszechnica TV; 18.25 „Wielokropek"; 18.45 „Poligon"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 TV Kurier Mazowiecki; 20.15 Teatr TV: „Pułkownik Foster przyznaje się do winy" R. Vaillanda; 21.45 „10 minut recenzji"; 21.55 Dziennik.

SOBOTA, 11.III.

10.55 Dla szkół (kl. V): Geografia — „Za kręgiem polarnym"; 11.25 „Takie jest życie" — film fab. wł.; 14.00 Loty narciarskie (Norwegia); 15.45 „Sztuka widzenia" — telekonkurs; 16.35 Dziennik; 16.45 II Halowe Igrzyska Europejskie w lekkoatletyce (Praga); 17.40 Program tygodnia; 17.55 „Psycholog radzi"; 18.15 „Po szóstej"; 18.55 II Halowe Igrzyska Europejskie w lekkoatletyce (Praga); 19.20 Dobranoc; 19.30 Monitor; 20.30 „Tylko dla pań" — filmowy program rozrywkowy; 21.00 Dziennik i wiadomości sportowe; 21.25 „Spiewki stare, ale jare" — ludowe melodie hiszpańskie; 22.10 „Takie jest życie" — film fab. wł.




3 marca, piątek

12.50 Program; 13.00 Koncert; 15.00 Program przedwyborczy; 15.30 Wiadomości wiejskie; 16.00 Dziennik; 16.20 „Desant z tajgi — film. 18.00 Sztafeta nowin; 19.00 Program poetycki; 19.30 Mistrzostwa świata w jeździe figurowej na lodzie.

4 marca, sobota

11.25 Program; 11.30 Dla uczniów; 13.40 Dziennik; 13.55 Dla dzieci; 14.20 Opowiadania dla dzieci; 15.05 Śpiewa Tamara Miansarowa; 16.30 „Blaski i cienie"; 17.00 Klub filmowy; 18.00 Dziennik; 18.30 „Ogoniok"; 19.30 Mistrzostwa świata w jeździe figurowej na lodzie.

5 marca, niedziela

7.55 Program; 8.00 „Budzik"; 8.30 Gimnastyka; 9.00 Film dla przedszkolaków; 9.30 Dla uczniów; 10.10 Dla młodzieży; 11.10 Żołnierskie pieśni; 11.50 Program żołnierski; 12.30 „Kiosk muzyczny"; 13.00 „Trzy etapy wielkiego hokeja". Etap trzeci; 13.40 „Szkatułka muzyczna"; 14.00 Dla uczniów; 15.00 Jazda pokazowa asów łyżwiarskich (z mistrzostw świata); 17.25 „Deszcz leśny" — film; 17.55 Hokej Czechosłowacja — Kanada; 20.15 Śpiewa Mark Bernes.

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 99


Загончык невялічкі, які здаецца ворагі і насмешнікі далонямі прысланіць змагалі б ды і той камянямі — падкідышамі панатыканы. Ні то зграраны — ні то грэбнем падзеяў расчэсаны.

А ён ідзе! Крочыць праз дваццатае стагоддзе сыплючы ў крывыя баразны жменю за жменяй. Жменю за жменяй зярнят, часамі ад чужой прымесі ледзь ачышчаных.

Быццам бы не бачыць суседніх тлустых дзелянак, на якіх здаецца верабей арлом разгарнуўся б.




Быццам бы не заўважае шматлікіх сеялак гатовых ахвотна падмяніць ягоную даматканую плахту.

Сее і верыць! Верыць ва ўраджай!

Навошта ён думае, што хто-колек палашчыцца на ягоны чорны з мякінаю хлеб?

Хто ж ён такі? Дзівак якісьці? Ідэаліст? Апошні зубр з Белавежскай пушчы? Скуль узяўся гэты небарака?

А можа гэта ты — сейбіт — мой сябра па паперы — пісака?

Пост скрыптум:
Вось і наблытаў! Што за параўнанні? І зноў я з фактамі не ў згодзе!

Ядуць жа чорны хлеб. Дый хваляць яго тыя, каму жывот успучыла ад булак.

А зубр які апошні? Гэта ж калісьці. А сёння іх рагатых не проста ўжо злічыць. І з пушчы вылезлі ж — у свет шырокі пруцца. А дзе якіх у «дэвізах» нават цэняць.

Хоць не, браткі! Тут падабенства яшчэ можна дашукацца.

Бо ж ведама ўсім, што роднай барады ніводзін зубр пакуль што не згаліў па тое — каб пад вала прыстасавацца.

**Юрка Геніуш**



* ✲ *

Іду са спаткання
у натхнёнай задуме
і вобраз твой нясу як ікону

на ўзгорку
у царкве звоняць
святых склікаюць
на спатканне з народам

мне грэшнаму нельга так паявіцца
святыя ўбачаць голае цела
дзяўчыны ў вачах маіх
у вачах звар'яцелых
у вачах бліскавіцы —
з іконай сваёю ў царкву не прыходзяць

**Іван Чыквін**

* ✲ *

**Што сёння праўдай ёсць**
**заўтра акажацца маною**
**і так ва ўсім**
**у кожнай быту сферы**
**мы захапляемся у штосьці верым**
**а наш нашчадак будзе кпіць смяяцца**
**з наіўнасці свайго прадзеда**
**як мы смяемся часта з продкаў**
**жыццё ідэй і святасцей каротка**
**як людзі яны родзяцца канаюць**
**і ў гэтым прыгажосць**
**адвечнае адновы**
**адно расце другое ідзе з дымам**
**як смешныя людскія словы**
**— «нашы ідэі будуць вечна маладымі»**

* ✲ *

**Не шукай у мяне павучэнняў**
**ні навук ні рэцэптаў**
**ні узораў для пакалення**
**ні натхнення**
**ні новай ў шчасце дарогі**
**тут толькі сумненні**
**тут толькі трывогі**
**тут толькі пытанні**
**прызнаюся**
**нічога не знаю**
**таму сам пытаю**
**як дарогу ў радасць пракласці**
**і вершы ствараю**
**усмешкі да шчасця.**

**Алесь Барскі**

Дзе толькі ні гляну я, бачу
Да горада вёскі імкненне.
Жыве сёння вёска іначай,
Яна нават пахне ўжо меней

Страхою жытнёвай,
Лесам-дубровай,
Пушчанскай жывіцай,
Льнянай кастрыцай.




Горад прыехаў здалёку
На звонкагалосых маторах.
Прыплыў электрычным токам.
Гулу матораў не ўторыць

Драўляных стук калёс,
Кляпанне звонкіх кос,
Тачэнне сярпоў,
Рытмічны стук цапоў.

Знікаюць драўляныя хаты,
Знікае на дахах салома.
Лягла чарапіца на латах,
Расце дом цагляны за домам.

І прадзедаў мовы багатай
Не зраджвае праўнук. З пашанай
Яе са старэнькае хаты
У дом пераносіць цагляны.

**Віктар Швед**



## ДЗІВАСІЛ



**Хто перлы пазбірае о, Баяне!**
**Дзе сцежкі зарастаюць муравою,**
**Архангел мечам часу не кранае**
**Ні курганоў, ні славы, ні герояў.**
**Ён вечны ў царстве Эльдарада.**
**Бунтарны дух сярмягаю акрыты,**
**Узбіўся з шыбеніц непакананы,**
**Праўды і волі прапаведным крыкам.**
**З святынь агонь і помста запалалі,**
**Бо мучаным цярністы шлях не страшны.**
**Пралітай кроўі сцяг нястрымнай хваляй**
**Змятаў кароны, троны і палацы.**

**Зноў дзівасіл над брацкаю магілай**
**Расце для пакананых і герояў.**
**Зноў страшаць дзікія хаўтуры Хірасімы**
**Грозным грыбом і спапялелай кроўю.**
**Калі рэальнымі адвечных казак мары**
**І новы Праметэй касмічнаю ракетай**
**Адкрыў блакіт.**
**О, голубе навукі!**
**Ты запануй над зямным шарам!**
**Уціхамір людзям цярпенні, слёзы, мукі,**
**Як дзівасіл расцвіўшы стройным летам.**

**Уладзімір Гайдук**




Там, дзе канчаецца Беласток, у асеннім закавулку, стаіць дом на продаж. У нядзелю з'явіліся купцы: іх двух і хлопец.

Гаспадар спадзяваўся купцоў — нават хлопцу падаў руку.

— Панове, вельгахны дом, — гаварыў памазурску гаспадар, стараючыся адгадаць, хто тут праўдзівы купец, а хто ягоны дарадчык?

— Тэго, дом нямалы. Праўда, — сказаў купец у кажушку. Ён засунуў рукі ў кішэні і замаўчаў, як бы здзіўлены сам сабою, што загаварыў не па-польску.

Другі купец, падобны да гандляра з забеластоцкіх мястэчак, перабіў гутарку гаспадара:

— Давайце цану.

— Дзвесце!

— Э-э-э, мо і паўмільёна прыснілася вам, — зажартаваў той жа, што так дабіваўся цаны. І пачаў смяяцца лісліва, каб залагодзіць гэты жарт не на месцы, ад якога гаспадар аж засоп.

— Панове дзвесце — цана дарэмная.

— Сто пяцьдзесят.

— Панове, не!

— Шчыты, як руіна.

— Панове, найважнейшыя сцены. Век стаяць ім, смала ядыная!

— Сто пяцьдзесят.

— Пане, ходзьце пан, памацайце сцены. Ходзьце, ходзьце...

— Відаць і так.

— Дзвесце і баста!

— Ой, але ж пан і Твардоўскі.

— Панове, я не з леткіх. Маё слова, як лянца ўланская.

— Пан служыў ва ўланах? — азваўся купец у кажушку. — У якім палку?

— У 9-ым, у Гродне, потым у Сувалках.

— І я ў Сувалках.

— Разам!? — здзівіўся гаспадар. — Помніць пан капрала Равэцкага?

— Ну, і чорт ён быў!

— Панове, на польска-нямецкім фронце пад Чанстаховаю яму кішкі вываліла. Ляментаваў: дабійце мяне, няхай швабы не збыткуюць...

— А нас пабралі ў няволю і завезлі ў Саксонію.

— Каштавала вайна здароўе...

— Так, так...

— Я стары, жонка памерла. Крыся мае кавалера далёка. Выязджаем, дом збываем, купім там...

На ганак выйшла дзяўчына, дачка гаспадара, Крыся. Яна вынесла плашч бацьку, каб не прастыў на холадзе. Сказала ўсім «дзень добры», але яе вочы слізганулі толькі па стройным адзенні хлопца, прыпыніліся панад бялістым каўняром кашулі. Вышэй сіганугь яны не адважыліся. І павярнулі назад.

Старыя таргаваліся.

— За такі грош купіш пан дом мураваны, яшчэ нямецкі. Як цацка!

— Дзіцяці і ўнукам, — дабавіў купец у кажусе.

— Але не за сто пяцьдзесят — разгарачыўся гаспадар. — Мне старому, і на месцы аж за добры дом, але лёс Крысі патрабуе...

— Ну, пане, сто шэсцьдзесят і згода!

— Дзвесце, панове, дзвесце.

— Не будзь пан Твардоўскім...

Купец у кажусе нахіліўся да хлопца і сказаў:

— Ваня, а ты як думаеш?

Хлопец паціснуў плячыма.

— Хто яго ведае, тату...

— Я ж табе гэту хату купіў бы, — зашаптаў стары ад раптоўнай злосці, бо ўразіла яго абыякавасць сына.

Хлопец даўно не чуў ды не разумеў таргу. Ён глядзеў на ганак, дзе стаяла Крыся. Быў гэта той беларуска-беластоцкі тып дзяўчыны, выраслай са скрыжавання крыві: адданыя вочы, пакладзістыя грудзі, гатоўныя рукі. Губы вульгарныя і гарачыя. Глядзела на хлопца і хлопец ведаў, што толькі ад яго залежыць, каб яна загаварыла. Ён не адрываў вачэй ад яе губ і адчуваў, як моцным быў бы ціск яе рук на яго шыі — у ціхім пакоі гэтай хаты...

Сонца свяціла і свяціла, чапляючыся да дзяўчыны, да яеераспелых грудзей у павуцінні дарагой блузкі. Калені дзяўчыны чырванелі, а хлопец маўчаў і маўчаў...

Торг адклалі да другой нядзелі. Калі адыходзілі, хлопец усміхнуўся да дзяўчыны, а дзяўчына засмяялася да хлопца.

**Сакрат Яновіч**

 

ЖАНЧЫНЫ СПЯВАЮЦЬ

# Мінусы і плюсы хору ў Чаромусе

Тры мінусы ў сваёй працы з хорам жалезнадарожнікаў у Чаромусе называе яго кіраўнік і дырыжор **Мікалай Гарадкевіч:**

1) непрыязныя суадносіны ў самой групе жанчын-харыстак (недысцыплінаванасць, лішняя размова на рэпетыцыях, несяброўскасць),

2) невялікае, або зусім няма, зацікаўленне хорам, яго працай і патрэбамі ў чаромушскіх «закладах працы».

У прадпрыемствах у Чаромусе пры жалезнай дарозе працуюць: Паравазоўня, Перавозная служба, Насьцаленя, як вядома, існуюць розныя арганізацыі. І толькі ў Паравазоўні цікавіліся дзейнасцю хора, а рада закладовая тут памагла і памагае ў грошах: купіла касцюмы, дае на бягучыя патрэбы.

Трэцім мінусам кіраўнік называе скрытыкаванне іхняга хору на ваяводскім аглядзе ў Беластоку ў канцы мінулага года. Справа ў тым, што жаночы хор з Чаромухі быў тут найлепшы. Быў вельмі арыгінальны і атрымаў дыпломы прызнання. Але журы агляду, як часта ў нашай крытыцы бывае, пайшло па лініі найменшай культуры крытыкі: без ніякіх аглядак «аб'ехала» перад усімі кіраўніка — арганізатара, энтузіяста, бескарыснага змагара за існаванне хору. Хор быў яго візітным білетам. Стварыў яго, як звычайна ў грамадскай працы, праз сістэматычную ўпартасць і пошукі, здаючы сабе справу з недасканаласці свайго твору.

І вось: высокае журы з высокага п'едэсталу без цэня ласкавай усмешкі для цяжкасці працы грамадскіх дзеячоў у тэрэне, безапеляцыйна ацэньвае, дапушчальныя ж. недахопы ў аматарскім хоры.

Якія? Разлезласць, нібы, брак энергіі ў хоры, нібы. Пэўна, што можна спрачацца, ці разліўчасць (бо не разлезласць) добрая ці кепская. На ўсходзе, вядома, заўсёды спявалі разліўна, расцягнута.

Кіраўнік пагневаўся на форму, у якой крытыка была пададзена і перарваў працу хору.

Цяпер думае і па крысе шукае новых развязак.

А жанчыны-харысткі, аб якіх пішам на парозе іх свята? Гэта маладыя наогул людзі. Сярэдні ўзрост да 40 год. Ёсць ветэранкі: **Лена Губайская, Леакадзія Матушэўская, Клаўдзія Ефімюк.** Да цэненых галасоў належаць сёстры Валя Гудзейка і Тоня Асіпчук. Антаніна Асіпчук завочна канчае матуру. Усе пераважна з дзяцьмі, што для іх не з'яўляецца перашкодай удзельнічаць у хоры, хоць вядома, дзеці-дзецьмі.

Большасць у хоры — 3/4 — гэта так званыя хатнія гаспадыні з Чаромухі. 8 — работніц з чаромушскіх жалезнадарожных прадпрыемстваў. 6 — незамужних. Яны маюць менш клопатаў сямейнага характару. Бо ўвогуле часта густа мужы і ў Чаромусе з зайздрасцю і з неразуменнем, неласкавым вокам глядзяць на жонак-спявачак, якім песня адкрывае кавалак свету ў пераносным і не пераносным значэнні (хор з канцэртамі выязджае ў ваколіцы). Старая гісторыя: мужчыны — кансерватысты, але не трэба ім лёгка здавацца ў іх, паіхняму салодкі, а па-нашаму горкі, палон. Палон заўсёды палонам застанецца.

**Вера Леўчук**

# Маладым аб ваенных школах

Міністэрства Абароны, як штогод, праводзіць набор добраахвотнікаў у Ваенную тэхнічную акадэмію імя Я. Дамброўскага ў Варшаве (ВАТ), Ваенную медыцынскую акадэмію ў Лодзі (ВАМ) і Вышэйшую школу ваенна-марскога флоту імя Героя Вэстэрплятэ ў Гдыні (ВШМВ).

Паступіць у вышэй успамянутыя акадэміі можа той, хто мае польскае подданства; нежанаты; не перакрочыў 21 год жыцця — у ВАМ і 23 год — у ВАТ і ВШМВ; мае адпаведныя фізічныя і псіхічныя здольнасці да ваеннай службы; закончыў сярэднюю адукацыю і т.д. Заявы трэба складаць у павятовых ваенных штабах (ВКР). Фармуляры заяў — анкет можна атрымаць у павятовых штабах або ў ваенных часцях. На заявах-анкетах непаўналетніх павінна быць пісьмовая згода бацькоў. Заявы можна складаць толькі да **15 сакавіка 1967 года.** Падрабязныя інфармацыі можна атрымаць у павятовых ваенных штабах.

Вядзецца таксама набор кандыдатаў у Афіцэрскія **прафесіянальныя школы,** якія плануецца ў гэтым годзе перайтварыць у вышэйшыя школы.

Міністэрства Абароны вядзе набор добраахвотнікаў у **прафесіянальныя падафіцэрскія школы:** імя Сям'і Налязкаў, авіяцыйных войск, ваенна-марскога флоту, войск сувязі, радыётэхнічных, ракетных і артылерыі, хімічных, інжынерныйх і камунікацыі, інжынерыйна-будаўнічай службы, службы ўзбраення, кватэрміэтэрскіх служб, службы здароўя і ваеннай унутранай службы. Сюды могуць быць прыняты кандыдаты як у **прызыўным,** так і **дапрызыўным узросце,** якія нарадзіліся ў 1944—49 гадах. Кандыдаты ў падафіцэрскія школы павінны напісаць заяву на адрас каменданта данай школы і злажыць яе ў павятовым ваенным штабе.

Заявы ў падафіцэрскую прафесіянальную школу імя Сям'і Налязкаў можна складаць да **31 мая 1967 года.,** а да іншых школ да 30 чэрвеня 1967 года. Аб падрабязнасцях кожны з кандыдатаў можа даведацца ў павятовых ваенных штабах, а таксама ў камандзіраў ваенных часцей.

**(Кара)**

У адным са студзеньскіх нумараў «Нівы» мы інфармавалі аб друку падручнікаў беларускай мовы для пазасобных класаў пачатковай школы. Зараз дайшлі да нас новыя і больш падрабязныя звесткі, і таму спяшым аб іх паведаміць зацікаўленых.

Рэдактар беларускіх падручнікаў В. Суднік паведаміла, што друк «Беларускага слова» для пятага класа ўжо канчаецца і што павінна яно быць у продажы больш-менш у палове сакавіка г.г. Чытанкі для восьмага класа таксама ўжо даўно ў друкарні. Паводле думак рэдактар Суднік праца на толькі разгорнута, што канчаецца іх склад. Пасля складу падручнік пойдзе да карэкты, а затым будзе друкавацца. Інакш гаворачы, у наступным школьным годзе будзе ў школах. Падручнік

# Яшчэ раз аб падручніках

для сёмага класа таксама адданы ў друкарню. Агульна кажучы, справа падручнікаў для 5, 8 і 7 класаў залежыць цяпер выключна ад друкарні ў Быдгошчы, дзе друкуюцца ўсе беларускія падручнікі.

Горш справа выглядае з падручнікам для шостага класа. Першая яго версія была скрытыкавана рэцэнзентамі і перакасаана аўтарам для перапрацоўкі. Перапрацаваны падручнік рэдактар Суднік атрымала 9 лютага г.г. і накіравала яго ў камісію. Прадчуваецца, што чытанкі для шостага класа, нават пры найбольшым заангажаванні і камісіі, і рэдакцыі, і друкарні, не выйдуць раней, чым у 1968 г. Праўдападобна ў наступным навучальным годзе «Ніва» будзе друкаваць урыўкі з падручніка для 6-га класа. Аб гэтым інспектараты і школы атрымаюць спецыяльныя інструкцыі з Куратарыі. К. А.

# Гробы нашых пра-продкаў

Рэгіянальны музей у Беластоку выдаў нядаўна невялікую кніжку Яна Ясканіса пад загалоўкам: „Pradziejowe grobowce kamienne Białostocczyzny".

Кніжка коратка расказвае аб найважнейшых тыпах дагістарычных грабоў, якія сустракаем на Падляшшы, пачынаючы ад т. зв. «скрынковых грабоў», якім ужо каля 5 тысяч гадоў. Аўтар кніжкі заклікае насельніцтва да інфармавання музея аб рознага тыпу курганах, якія могуць аказацца вартаснымі археалагічнымі аб'ектамі.

У кніжцы змешчана мноства здымкаў курганаў і іх раскопкаў, а таксама некаторых археалагічных экспанатаў Беласточчыны. Маем тут між іншым здымкі курганаў і раскопкаў з Курашэва, Кутаві, Ласінкі і Збуча ў Гайнаўскім павеце, Ясёнавай Даліны ў Сакольскім павеце і іншых мясцовасцях.

Шкада толькі, што выдавецтва не задбала аб лепшую тэхнічную і мастацкую вартасць змешчаных здымкаў. (п)

А. Баршчэўскі, В. Швед

# Дружба і праца

Хрэстаматыя для VIII класа

**ПАМЯЦІ МАРЫІ КАНАПНІЦКАЙ**

**І зышла ты, песнярка народаў,**
**Божы светач*) жывых пакаленняў,**
**Ў новы край невядомага быту**
**Ад жыццёвых няпраўд і цярпенняў.**

**І пакінула загадку свету —**
**Ўсім няшчасным і зблізка, і з далі:**
**Ці то сонца зайшло назаўсёды,**
**Ці ім долю мо іх пахавалі?..**

**Бо як песня твая ўсемагутна**
**Безгранічна звінела, будзіла, —**
**Так няма ні граніцы, ні меры**
**Ўсёй жальбе над тваёю магілай.**

**І хаця сэрца сціхла, заныла,**
**Хоць, як зоры, ўжо вочы не свецяць, —**
**Голас думак тваіх яшчэ будзе**
**Не з адным гаманіці сталеццем.**

**Дух твой з светласцю неба сальецца**
**І з праменнямі сонца святога,**
**Слёзы-росы высушваць будзе**
**І паказываць к праўдзе дарогу.**

**Памяць насып-магілку ўхарошыць**
**З жывых кветак рукою сірочай,**
**Як квяцісты былі твае песні**
**Сярод земскай і сцюжы, і ночы.**

**А з мільёнаў грудзей набалелых**
**Плысці ўздох з веку ў век не пакіне**
**Па заступніцы ўсіх нешчаслівых,**
**Па вялікай песнярцы-княгіні.**

**Янка Купала**

1. Што ведаеш аб творчасці М. Канапніцкай?

2. Адшукай у польскім падручніку творы М. Канапніцкай.

3. Растлумач значэнне слоў паэта: «Голас думак тваіх яшчэ будзе не з адным гаманіці сталеццем».

4. Чаму памяць аб М. Канапніцкай дарагая беларускаму паэту і беларускаму народу?

**СЛОЎНІК**

Светач — агонь ведаў і навукі.

# Беларускае пагранічча на поўначы

У часы нямецкай акупацыі мая суседка на Сакольшчыне хадзіла пехатою аж у Сувалкі, дзе быў лагер для военнапалонных. Шукала свайго мужа, якога забралі немцы. Ад нас да Сувалак не менш, чым сто пяцьдзесят кіламетраў дарогі. Выдавалася гэта краем свету.

Здзівіла мяне тады тое, што гэта суседка ўсю сваю сумную дарогу праз дзесяткі вёсак прайшла, умеючы гаварыць толькі па-беларуску. Потым казала яна, што недзе за Аўгустоўскую пушчаю, перад Сувалкамі, людзі гаварылі неяк «крыху не па-нашаму».

Калі я вырас і пачаў цікавіцца турыстычнымі паходамі, наведаў прыгожы Сувальскі край. Лёгка заўважыў, што ўсходняя палова Сувальскага краю, аж за паўлітоўскія Сэйны, гаворыць без мазурскага акцэнту і ўжывае так многа беларускіх слоў, што часамі маецца ўражанне, быццам знаходзішся на роднай Сакольшчыне, а не пад далёкімі Сувалкамі. Ясна, што тэрыторыя Усходнесувальскага краю ў далёкім мінулым сталася месцам перамяшання двух народаў: палякаў і беларусаў, якія аказаліся тут у меншасці, але перавага палякаў была, відаць, невялікай. Гэтае польска-беларускае пагранічча мае форму вялікага кліна, заціснутага ад поўдня бязлюднай Аўгустоўскай пушчай, а ад поўначы — карэннымі літоўскімі землямі, багатымі і густанаселенымі — пачынаючы ад Друскенік, Сэйнаў, Шыплішак. Гэта, бадай, адзіны клінападобны выпадак у польска-беларускім пагранічны ўвогуле. Тэрыторыя гэтага польска-беларускага кліна роўная тэрыторыі малога павета.

У сваіх вандроўках па Усходнесувальскаму краю штораз можна напаткаць такія вёскі, як: Алексеёўка, Марынава, Грышканцы, Радзюшкі, Лясанка, Іванoўка, Белагоры, Аляксандроўка, Данілаўцы, Дубава, Рыжоўка, Бабанцы, Мікалаеўск, Цімахоўшчына і т.п.

Таму са зразумелай цікавасцю чытаюцца працы польскага вучонага Т. Здануэвіча, родам з вёскі Радзюшкі, які займаецца даследаваннем гэтага вялізнага кліна польска-беларускага пагранічча. Здануэвіч даследваў характэрныя асаблівасці гаворкі роднай вёскі Радзюшкі, у якой ужываецца вельмі шмат папулярных беларускіх слоў, нязначна змененых пад польскім уплывам — bałtun, karszun, bosonosz, głodomor, suchostoj, pastronki lub pustronki, bosikom, popołam, nazat, reka, ja robił, Pietrok, Pietruk, Stasiuk, maładziec, katuch, durak, kułysza, і т. п. Як відаць, некаторыя словы вымываюцца тут зусім па-беларуску. Цікава і тое, што **яшчэ па сённяшні дзень** старыя людзі ў вёсках ля возера Вігры каля Сувалак гавораць treba замест trzeba. Гэтых людзей называюць «трэбачамі» або «трэбакамі». Здануэвіч, як чалавек, які нарадзіўся і вырас у гэтай аколіцы, мае ўсе падставы да свайго сцвярджання, што калісці ў акцэнце гэтага польска-беларускага пагранічча тыповым было характэрнае беларускае «аканне», якое занікае, але не зусім. Здануэвіч дае прыклады былога «акання», якое яшчэ дзенедзе захавалася, як: ta bagna była, ta kartofliska była, ta pola była, ta placowa była. Але гэтае беларускае «аканне» не зусім знікла і захоўваецца надалей, як: ta bagno była, ta kartoflisko była, ta pole była, ta placowe była. Далей Здануэвіч заўважае, што імкненне пазбавіцца беларускіх рыс свайго акцэнту сярод мясцовага насельніцтва выразна загамавалася. Калісці гаварылася ja robił, а цяпер гавораць таксама на беларускі манер ja robiłem (я).

У гэтым месцы цяжка паўстрымацца ад прапановы ў адрас вучоных, якія ўслед за мовазнаўчымі доследамі павінны заняцца вывучэннем фальклору гэтых аколіц, несумненна мае ён у сабе шмат беларускага, як тыпова беларускія песні ў аколіцы Гіб, паблізу Сэйнаў.

На заканчэнне гэтага артыкула яшчэ адна цікавасць. Вядомы шведскі вучоны Кнут-Олаф Фальк запісаў шэраг балта-літоўскіх слоў, якія ўжываюцца ў вёсках Усходнесувальскага краю. Я, як ураджэнец Сакольшчыны, магу дадаць, што гэтыя словы ў роўнай меры папулярныя і на Сакольшчыне, а некаторыя з іх таксама і ў беларускіх вёс-



 

# ТРЫБУНА чытачоў

## ВАСІЛЬ САЛАВЕЙ

Васіль Салавей з Лукі (Гайнаўшчына) з'яўляецца прыкладным гадоўцам коней. А толькі некалькі год займаецца гадоўляй маладых жарабят. Кожны год прадае маладое жарабя дзяржаве. Жарабяты ў яго заўсёды пародзістай польскай расы. У 1965 годзе на павятовым з'ездзе перадавых гадоўцаў Васіль Салавей атрымаў званне і дыплом слаўнага гадоўцы коней. Хаця яму нядаўна скончылася 30 год, але ён ужо мае многа практыкі.

**«Чарот»**
Бандары




**Дарагое Сэрцайка!**

Я ўжо старэйшая, нейк не пашчаслівілася мне выйсці замуж. Раней жыла я са сваёй маці, але яна пайшла да сына, які жанаты. Яны цяпер увогуле не лічацца са мною і не прыходзяць нават наведаць мяне. А вось за што:

У маёй вёсцы жывуць два браты, якія таксама не жанатыя. Яны таксама працуюць на гаспадарцы. Я з імі разам апрацоўваю гаспадарку сваю і памагаю ім. Вельмі многа я ўлажыла сваёй працы ў іх гаспадарку, бо думала, што мо каторы з іх ажэніцца са мной. Аднак, як дагэтуль, ніводзін з іх не думае са мною жаніцца. Але я да іх прызвычаілася і таму хоць яны і не просяць часамі маёй дапамогі, я сама ім дапамагаю. Бо думаю, што можа яны правільна ацэняць гэтыя мае старанні і каторы з іх ажэніцца са мной.

Яны будуюцца. Я ім ва ўсім памагаю. Баюся, аднак, што, калі закончаць будову, пажэняцца з іншымі дзяўчатамі, а я астануся адна. Але я падумала, што мне тады было б вельмі непрыемна і самой, і ад людзей. Таму думаю, што я да гэтага не дапушчу, проста зайду ў хату і скажу, што гэта мая праца і не дазволю, каб якая іншая сюды прыходзіла. Не ведаю, ці добра паступаю. Скажы мне, Сэрцайка.

Наташа
з Сямяціцкага павета

Дарагая Наташа!

Па-мойму, ты аднак дрэнна думаеш і паступаеш. Нікога да жаніцьбы не можна прымусіць, тым больш старэйшага, дарослага чалавека. Паступаючы так, паніжаеш сябе, а так не трэба, тым не выйграеш. Калі вы разам апрацоўваеце гаспадаркі, як на вёсцы кажуць маеце сполку, дык ты павінна памагаць толькі ў той працы, якая належыць да вашай сполкі. Аднак працаваць многа задарма, не аплочваецца. Ты перш за ўсё сама першая дацані сябе, а тады і іншыя дацэняць. Толькі такім чынам можна выйграць. Раю ўзяцца за сябе.

**Сэрцайка**

---

**Адлегласць паміж невядомым мужчынам і аператыўнікамі скарачалася. Ужо некалькі дзесяткаў метраў раздзяляла іх. Аператыўнікі дасталі пісталеты і паставілі іх на баявы ўзвод. Раптам мужчына спыніўся, падняў угору скрыню, што знаходзілася ў яго ў руках, і з сілай кінуў яе на зямлю.**

**Неўзабаве аператыўнікі дабраліся да скрыні, з якой чулася нейкае падазронае гудзенне.**

**— Што гэта? — аператыўнік нахіліўся над скрыняй і імгненна адскочыў убок. — Лажыся! — закрычаў ён.**

**— Не хавайцеся! Я вас добра бачу!**

**Падбег настаўнік.**

**— Лажыцеся! — крыкнуў адзін з археолагаў.**

**— Што за глупства?! — Настаўнік не ўстойваў больш свайго абурэння. — Паглядзіце, што я знайшоў. Шпілька. Чацвёрты век, культура...**

**Ён не скончыў фразы. Адзін з археолагаў прыўзняўся і паваліў яго на зямлю. Амаль адначасова аглушальны выбух узняў у паветра слуп агню і дыму. Дзве разгалістыя сосны зваліліся на зямлю, разламаўшыся на часткі, як запалкі. У паветры кружыліся трэскі. Тры чалавекі, якія ляжалі на зямлі, не падавалі прыкмет жыцця.**

**(Працяг будзе)**

## ТЭАТРАЛЬНЫЯ ГУРТКІ

Пры пачатковай школе ў Рыбалах, Бельскага павета, дзейнічаюць два тэатральныя гурткі: дзіцячы і БГКТ. Дзіцячы гурток пад кіраўніцтвам настаўніцы польскай мовы Іраіды Прэдка апрацаваў байку Андэрсэна «Каралева на гаросе» і выступіў на навагодняй ёлцы. На асаблівую ўвагу заслугоўвае прыгажосць убораў «артыстаў».

Драмгурток БГКТ налічвае 17 членаў.

Апрацаваў ён два сцэнічныя творы: драму К. Крапівы «Валодзеў гальштук» і гумарэску А. Чужыніна «Пярэстая красуля». Драмгурток выступіў у сваёй вёсцы 4 лютага ў шчыльна запоўненай людзьмі школьнай зале. Апрача гэтых пастановак у праграму калектыва ўвайшлі: маналогі, скетчы, песні беларускія, рускія і польскія. Усе артысты добра выконвалі свае ролі, а на асаблівае падкрэсленне заслугоўвае ігра Валянціны Філіпюк, Валянціны Нікалаюк і Яўгеня Нікалаюка ў драме «Валодзеў гальштук».

Віктар Лукашук выконваў ролю купца Марганчыка з гумарэскі «Пярэстая красуля». Ён таксама паказаў высокі мастацкі ўзровень. З аматараў спевакоў найбольшыя апладысменты атрымалі: Валя Лукашук, Ліда Ільяшук і Віктар Леўчук за выкананне рускай песні «Очи чёрные». Рыбалаўскія самадзейнікі плануюць у найбліжэйшы час выехаць з гэтай праграмай у іншыя вёскі.

(ф)
Рыбалы

## МІХАЛОЎСКАЯ ШКОЛА

У Міхалове школа сельскагаспадарчай механізацыі штогод выпускае каля 120 чалавек, слёсараў-механікаў. Частка выпускнікоў ідзе вучыцца ў тэхнікумы, а частка прыступае да працы.

Зараз у гэтай школе вучыцца 415 вучняў. Пры школе знаходзяцца майстэрні для практычных занятказ. Першыя класы маюць два дні практыкі ў тыдзень і чатыры дні тэорыі. Старэйшыя класы маюць тры дні ў тыдзень тэорыі і тры дні практыкі.

Школа з прац выкананых вучнямі мае вялікія даходы. І так, як аблічыў прафесар Гжыбоўскі, з прац, якія выконваюцца ў кузні, кожны вучань зарабляе ў месяц 500 зл. Вучні выконваюць даручаныя ім работы добра, дакладна. Усе цешацца, што ў Міхалове будуецца ПОМ. Тады, скончыўшы школу, будуць працаваць далей у мястэчку, у якім тры гады вучыліся. Школа мае свой інтэрнат, у якім жыве 120 вучняў. Многія вучні наймаюць прыватна кватэры ў гаспадароў Міхалова. Нядаўна ў школе арганізаваўся самаходна-матацыклавы курс. Арганізатарам яго з'яўляецца дырэкцыя школы супольна з ЛОК-ам (Ліга абароны краіны).

**М. Л.**
Беластоцкі павет

## 30 ГОД НАСТАЎНІКАМ

Станіслаў Заянчкоўскі працуе настаўнікам ад 1929 года. Ні на адну хвілінку не спыніўся ў сваёй працы. Толькі вайна заставіла пакінуць школу. Пасля вызвалення ізноў вярнуўся да дзяцей. У Пашкоўшчыне працуе ўжо ад 1955 г. Калі прыехаў сюды ўпершыню, прывіталі яго чатыры сцены школы і пустэча. Больш нічога. Аднак Станіслаў Заянчкоўскі не спужаўся. Адразу ўзяўся да працы. Супольна з дзяцьмі і сябрамі — настаўнікамі ўпарадкаваў плошчу школы, засадзіў фруктовыя дрэўцы, агарадзіў. Цяпер кожны з захапленнем глядзіць на прыгожы школьны сад, на чырвоныя кусты ружаў, якія цвітуць летам.

Ст. Заянчкоўскі любіць майстраваць. Кожны дзень можна сустрэць яго ў майстэрні. Гэта майстар на ўсе рукі. Ён усё зробіць. У школьных вокнах, на сценах відаць працу кіраўніка. Усюды вісяць яго прыгожыя ўзоры кветак, выразаныя з паперы, лозунгі. На калідоры насценныя газеты.

Вучні з Пашкоўшчыны апякуюцца пачакальняй ПКС, якая стаіць недалёка школы. Летам носяць туды кветкі. Пільнуюць, каб ніхто не гарэзнічаў у памяшчэнні. А гэта ўсё робіцца з ініцыятывы кіраўніка Станіслава Заянчкоўскага.

У гэтым годзе Ст. Заянчкоўскі адыйдзе на пенсію. Хто будзе на яго месцы, як наладзіцца праца ў Пашкоўшчыне не ведаю. Думаю, што традыцыя грамадскай працы, якую паказаў цяперашні кіраўнік, астанецца і далей.

**Мацейка**

## НАРОДНЫЯ ВЫТВОРЦЫ



**Янка Камар рыхтуе салому.**

У месяцы лютым члены спулдзельчага аб'яднання саматужнікаў (халупнікаў) і народных вытворцаў у Кошках на Бельшчыне адзначылі 10-годдзе прадукцыі саламяных мат. Першыя метры мат выткалі ў вёсцы: Анна Камар, Аўдоцця Пагажэльская і Надзя Мецкевіч.

Зараз кожны жыхар Кошак прадукуе маты і мае з іх вялікія даходы. Моладзь не шукае працы ў горадзе, хапае яе тут у вёсцы. Бацькі не хвалююц-



**За кроснамі Ніна Сліўка, побач Ніна Леанюк.**

ца пра пасагі для сваіх дочак. Кожная дзяўчына з'яўляецца членам успомненага вышэй аб'яднання і на сваёй ашчаднай кніжачцы мае вялікія грашовыя сумы. Многія гаспадары дзякуючы гэтым даходам пабудавалі прыгожыя мураваныя дамы. Кожны малады чалавек у Кошках мае матацыкл. У Кошках ёсць 68 членаў спулдзельчага аб'яднання саматужнікаў і народных вытворцаў. Паводле іх падлікаў усе яны разам за 10 год выткалі каля 79 тысяч прыгожых саламяных мат.



**Параска Сліўка прадзе ніткі на аснову да саламяных мат.**

Тэкст і фота
П. Зінкевіч
Бельск

## НЯМА КАМУ ЗААПЕКАВАЦЦА МЕСЦАМ РАССТРЭЛУ

8 сакавіка 1942 года вёска Гаркавічы на світанні была акружана гестапаўцамі. Загналі яны ў будынак усіх мужчын вёскі, прачыталі прозвішчы 12 чалавек, былых членаў КПЗБ. Трох з іх схавалася, а 9 чалавек: Аляксандра Прытыцкага (брата дзеяча КПЗБ Сяргея Прытыцкага), Івана Прытыцкага, Леваня Прытыцкага, Уладзіміра Савіцкага, Івана Кастэцкага, Паўла Яцэвіча, Уладзіміра Усцілку, Івана Філановіча і Васіля Сыраўца завялі за вёску і расстралялі. Праз нейкі час зноў прыехаў атрад азвярэлых гестапаўцаў і злавіў яшчэ трох былых членаў КПЗБ: Аляксандра Патэльскага, Міхася Баравіка і Вольгу Кісель. Загінулі яны невядома дзе, бо гестапа павязло іх з сабою. Кажуць, што расстралялі іх у беластоцкай турме.

Жыхары Гаркавіч часам гавораць, што неабходна ў гэтым месцы, дзе расстраляны КПЗБ-оўцы, паставіць помнік або мемарыяльную дошку. Але пагавораць, пагавораць і перастануць, а па сапраўднаму ўзяцца за гэту справу няма каму. А мо так павятовыя ўлады ў Саколцы падумалі б пра гэта.

А. С.
Сакольскі павет

# КІНО

**Праграма на 7—12.III.1967 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Przygody Mauchausena" (czeski), 7—8; „Męski piknik" (jugosł.), 9—10; „Ktokolwiek wie" (polski), 11—12.

**Кляшчэлі**
„Wehikuł czasu" (USA), 7—8; „Następcy tronów" (włoski), 9—10; „Gdzie jest trzeci król" (polski), 11—12.

**Дубіны**
„Nikt śmiać się nie będzie" (czeski), „Nieznany" (polski), 11—12.

**Нараўка**
„Spacer po linie" (angl.), „Trzy kroki po ziemi" (polski), 8—12.

**Нарва**
„Pieczone gołąbki" (polski), „Rękopis znaleziony w Saragossie" (polski), 8—12.

**Чыжы**
„Samson" (polski), „Sklep przy głównej ulicy" (czeski), 8—12.

**Дубічы Царкоўныя**
„Pożegnania" (polski), „Dzielnica szczęścia" (rumuński), 8—12.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Urocza gospodyni" (USA), „Bandyci z Orgosolo" (włoski), 8—12.

**Орля**
„Dwadzieścia godzin" (węgierski), „Elektra" (franc.), 8—12.

**Райск**
„Przybycie tytanów" (włoski), „Zdradzona ziemia" (radz.), 8—12.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Anioł błogosławionej śmierci" (czeski), „Arcylokaj" (franc.) 8—12.

**Міхалова**
„Marcin w obłokach" (jugosł.), 7—8; „Walizka z milionami" (franc.), 9—10; „Nieśmiały w akcji" (radz.), 11—12.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Przygody Wernera Holta" (NRD), 7—8; „Wyrok" (polski), 9—10; „Śmierć Belli" (franc.), 11—12.

**Шудзялава**
„Wiosna we wrześniu" (czeski), „Wielki skok" (franc.), 8—12.

**Сідра**
„Biała pani" (czeski), 7—8; „Mój stary" (polski), 9—10; „Trema" (USA), 11—12.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Przygody Wernera Holta" (NRD), 7—8; „Wyrok" (polski), 9—10; „Śmierć Belli" (franc.), 11—12.

**Новы Двор**
„Testament uczonego" (radz.), „Giuseppe w Warszawie" (polski), 11—12.

**Ліпск**
„Ostatni lot" (radz.), „Romans z nieznajomym" (jugosł.), 11—12.

Ніва

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

Nakład 6.944 Błtk M-3

## Святочны букецік

Толькі перасталі спяваць другія пеўні, як мой Кастусь схапіўся з ложка.

— А чаго ж ты сёння так рана? Жывот забалеў?

— Ой, не пытай, Мальвінка. Адпачывай спакойна. Сёння я ўсё за цябе зраблю. І свінням падаю. І снеданне звару. І хату прымяту. А ты мне каб і пальцам да нічога не дакранула.

— Што табе, Кастусь, у мазгах перавярнулася? Заўсёды ледзь дабуджуся, а тут такі хуткі. Чаму ж гэта так?

— Хіба ты, Мальвінка, забыла, што сёння вашае бабскае свята! Схавай нос пад коўдру і не варушыся. Бачыш, сёння твой мужык ва ўсім цябе заступіць.

Слухаю я і вушам сваім не веру. Ці гэта мне сніцца? Ці сапраўды мой Кастусь дагане сусветны ўзровень культурнага росту? Ляжу, прытаіўшы дух, і слухаю. А мой Кастусь увіваецца па хаце, як сапраўдная гаспадыня. Пайшоў падаў карову. Адцадзіў малако. Распаліў у печы. Ляскае ведрамі, перастаўляе гаршкі. Аж лягчэй на сэрцы робіцца. От, думаю сабе, ці ж калісь чуў хто або ведаў пра бабскае свята? Цяпер у кожнага мужыка ў галаве паяснела. Вось што значыць народная культура. А я ўчора не магла ўцяміць, чаму Кастусь з такою ўвагаю гартаў «Пшыяцюлку». Гэта яна яго да розуму давяла, наша штотыднёвая бабская сяброўка — расчуліліася я і смачна прыснула. Прабудзілася — сорам гаварыць — каля дзесятай. Кастусь схапіўся з крэсла, уключыў радыё і падаў мне маю бархановую накідку. Адзелася я і разглядаюся па хаце. Бачу, на стале стаіць збанок з зялёнымі ялінкамі.

— Што гэта, Кастусь, другія калядкі задумаў святкаваць?

— Выбачай, Мальвінка, у горад па кветкі задалёка, зрабіў, як умеў. Гэта мой святочны букецік.

— Які ж ты, Кастусёк, сёння мілы.

— Ну, мілы, не мілы, а ты, Мальвінка, сядай снедаць, бо і так ужо прастыла.

Села я за стол, узяла лыжку, але бачу: нейкая чорная зацерка выйшла. І прыгорыная заносіць.

Кастусь выйшаў па ваду. Падыйшла я да пліты і ахнула. Працадзіў, прастафіля малако праз шмату, якою я чыгуны цягаю. Але, што ж, святам не выпадае падымаць у хаце сваркі. Увайшоў Кастусь і пытае:

— Ну, як, смакуе?

— Ты ўжо ў любой сталоўцы мог бы кухара заступіць, — пахваліла я.

А мой Кастусь аж падрастае з радасці.

— А на абед будзеш мець сваю ўлюбёную страву, — пахваліўся і сеў скрабаць бульбу.

Вярнулася я з вёскі, а Кастусь хутчэй запрашае:

— Сядай, Мальвінка, абедаць. Бульба з соусам!

Гляджу я, а ён мне бульбы з пудынгам наварочаў.

Толькі пайшоў даваць каровам, я за міску і Бобіку. Няхай і ён пагасцюецца.

Хацеў Кастусь яшчэ якуюсь спецыяльную вячэру шыкаваць, але я ўжо яго пашкадавала. Спякла яму такіх блінчыкаў, што еў і аблізваўся.

**Цёта Мальвіна**




### З ЖЫЦЦЯ ПЕРШАБЫТНЫХ ЛЮДЗЕЙ
У перыяд матрыярхата




— Ну, дык што, возьмем на трох?

### БАЯЗЛІВЫЯ МУЖЧЫНЫ

Жаніх: — У мяне не хапае смеласці сказаць твайму бацьку пра свае даўгі.

Нявеста: — Якія вы, мужчыны, усе баязліўцы. Мой бацька ніяк не адважыцца сказаць табе пра свае.

### ВЕРНАЯ ПРЫКМЕТА

Цвярозы ў дзень зарплаты
Вярнуўся муж дахаты.
І жонка ў непакоі:
— Ну што ж гэта такое?
Што ў вас за бюракраты —
Не выдалі зарплаты?..

**Ул. Захарэвіч**



### А КАЖУЦЬ — РАЎНАПРАЎЕ

У дзень Восьмага сакавіка мужчына штосьці гатуе на кухні. Назіраючы, як жонка сядзіць у пакоі з сяброўкай за сталом і п'е чай, ён кажа:

— А яшчэ сцвярджаюць, што ў нас раўнапраўе.

### МАЛА

— Як склаліся ў цябе адносіны з мужам? — пытаецца маці ў дачкі, якая нядаўна выйшла замуж.

— Цудоўна, мама! Ён купляе мне ўсё, што толькі я папрашу.

— Кажаш, купляе ўсё... Значыць, дачушка, ты мала просіш.

### АДЗІНАЯ РАДАСЦЬ

— Я рашыў развесціся з табой, — кажа муж жонцы.

— Дурань, ды такую жонку, як я, табе ніколі не знайсці!

— Гэта для мяне адзіная радасць.

### ТРЫМАЕ САКРЭТЫ

Жанчына, убачыўшы, што сябры пра нешта шэпчуцца, сказала:

— Дарэмна вы шэпчацеся, я ўмею трымаць сакрэты, як ніхто. Яшчэ з учарашняга ведаю, што наш начальнік пасварыўся з жонкаю, але нікому не гавару.



### У ВАРАЖБІТКІ

— У вас будзе муж нізкага росту, бландзін з блакітнымі вачыма, багаты.

— Вельмі добра, але што мне рабіць з цяперашнім мужам?

### КОЖНАМУ СВАЁ

Стракатая Этыкетка, на якой была напісана цана Капелюша, гаварыла ўсім знаёмым:

— Чаго варты гэты Капялюш без мяне? Я даю яму цану. Дзеля мяне ён існуе на свеце...

Аднойчы ў магазіне з'явіўся Пакупнік. Ён адразу ж спыніў позірк на Капелюшы са стракатай Этыкеткай.

— Гэта мне падыйдзе, — сказаў Пакупнік і разлічыўся за пакупку.

Ля выхаду з магазіна ён адарваў стракатую Этыкетку ад Капелюша і кінуў яе ў скрынку для смецця. Капялюш жа надзеў на галаву.

*Уладзімір Отчык*

### З ЗАГРАНІЧНАГА



### ШЧЫРАЕ КАХАННЕ

— Ох, Парасачка мая!..

— Чаго ж ты!

— Нічога! Кахаю цябе так, што і сам не ведаю...

— Ну і што?

— Прысягаю, зорачка мая, што кахаю цябе, ой, як кахаю...

— Праўду кажаш?

— Праўду, сонейка маё, праўду, у нядзелю сватоў прышлю.

— Бацькі мяне не аддадуць.

— Чаму?

— Казалі, што перш старэйшую сястру аддадуць.

— Няўжо?

— Ды праўда ж, казалі!

— А пасагу шмат дадуць?

— Ой, шмат! Зямлю, карову, авечку і сто...

— А ты не ведаеш, ці пайшла б сястра за мяне?...

### Песні па заяўках

Па просьбе Аляксандра Носа з Дуплянкі Новай, Беластоцкага павета, змяшчаем песню п.з.

## НАШ ГОРОД

**За заставами ленинградскими**
**Вновь бушует соловьиная весна,**
**Где не спали мы в дни солдатские,**
**Тишина кругом, как прежде, тишина.**

**Припев:**

**Над Россиею**
**Небо синее,**
**Небо синее над Невой,**
**В целом мире нет,**
**Нет красивее (2 раза)**
**Ленинграда моего.**

**Нам все помнится: в ночи зимние**
**Над Россией, над родимою страной.**
**Весь израненный, в снежном инее**
**Гордо высился печальный город мой.**

**Припев.**

**Славы города, где сражались мы,**
**Никому ты, как винтовки, не отдашь.**
**Вместе с солнышком пробуждается**
**Наша песня, наша слава, город наш!**

**Припев.**




### Пуцёўка ў рай

П. Мамаду Радола, правадыр сіндыката Чорнанжнікаў Паўднёвай Афрыкі, аб'явіў, што сіндыкат вымушаны павялічыць плату за свае паслугі з 17 да 35 працэнтаў. Напрыклад, выгнанне злых духаў з сэрца мужчыны каштуе цяпер 1 фунт, замест 9 шылінгаў. Тое самае адносна жанчын: такса павялічылася з 1 фунта 9 шылінгаў да 2 фунтаў (вядома ж, у жанчын гэта зрабіць цяжэй!) Пуцёўка ў рай пасля смерці каштуе цяпер 4 фунты замест 3 фунтаў...



### Перасцярога

Вось якую перасцярогу атрымалі ўсе пілоты амерыканскіх паветраных ліній:

«Трэба заўсёды адмаўляцца ад цукеркаў і іншых ласункаў, калі іх будуць прапанаваць перад палётам мілыя пажылыя дамы, бо гэта могуць быць шалёныя, якія хочуць выклікаць паветраную катастрофу з дапамогай атручаных сладасцей».

### Каардынаты нараджэння

Сярод пасажыраў югаслаўскага судна «Нові-Сад», які накіроўваўся ў Дуброўнік, была і Сміляна Томіч. У адкрытым моры жанчына адчула сябе дрэнна і неўзабаве нарадзіла на свет дзіця.

У метрыцы дзіцяці, у графе «месца нараджэння», з'явіўся запіс: «Каардынаты 42°45 паўночнай шырыні і 17°52 усходняй даўжыні».




Уступім жанчынам дарогу, а самі пойдзем па тратуары.